ПРАПАНОВА ЧЫТАЧА

# Крыж замест зоркі

Сістэма новых дзяржаўных узнагарод ужо ствараецца ў многіх незалежных краінах, якія не так даўно сталі вольнымі пасля распаду СССР. Абмяркоўваецца гэтая праблема і ў Беларусі. Напрыклад, спецыяльнай камісіяй па распрацоўцы дзяржаўных узнагарод прапануецца ўвядзенне спецыяльнага вышэйшага ордэна тыпу «Герой Рэспублікі» і іншыя адпаведнікі.

На маю ж думку, нам, беларусам, патрэбна свая, адметная, сістэма ўзнагарод, не такая груватская і бюракратычная, пабудаваная на іншых гісторыка-мастацкіх крытэрыях.

Аснова для такой сістэмы ў Беларусі ўжо ёсць. Я маю на ўвазе вельмі прэстыжны, не скампраметаваны бяздумнымі ўручэннямі медаль імя Францыска Скарыны, які ўручаецца самым выдатным дзеячам нацыянальнага Адраджэння.

Далей, на маю думку, вельмі важна выбраць гісторыка-мастацкі вобраз узнагарод. Як вядома, большасць СССР-аўскіх адзінак будавалася на вобразе пяцікансовай зоркі — сатанінскім сімвале, сімвале бязбожнікаў.

Беларусь — краіна хрысціянская, і таму яе сімвал — хрысціянскі крыж. Менавіта на вобразе крыжа павінна будавацца і сістэма беларускіх узнагарод. Таму найвышэйшым ордэнам, на маю думку, павінен стаць крыж «Святой апякункі Беларусі» з паменшанай выявай патрыяршага крыжа Ефрасінні Полацкай. На гэтым крыжы, выява якога, дарэчы, прысутнічае ў дзяржаўным гербе Беларусі, павінны быць узноўлены ўсе надпісы і ўпрыгажэнні, зробленыя ў арыгінале Лазарам Богшам. У гэтым разе сама сабой адпадае спакуса ва ўзнаўленні недарэчных «саўковых» вынаходак накшталт «Героя працы», «Героя рэспублікі» і г. д. Такі крыж можна было б уручаць як вышэйшую ўзнагароду грамадзянам рэспублікі за выдатныя дасягненні ў дзяржаўным і эканамічным будаўніцтве, лепшым прадстаўнікам інтэлігенцыі і беларускага духавенства...

Такім жа чынам, на маю думку, трэба вырашыць і лёс вышэйшай беларускай вайсковай узнагароды. Трыумфам гістарычнай справядлівасці стала б заснаванне Крыжа Вітаўта Вялікага. Думаю, што значнасць гэтай асобы для лёсу беларускай дзяржавы даводзіць не трэба. Упэўнены, што годнасць кавалераў гэткай узнагароды ў шмат разоў узрасла б дзякуючы лучнасці з лёсам змагара за Беларусь — Вітаўта Вялікага.

Узорам такой узнагароды мог бы стаць беларускі васьмікансовы крыж-зорка з выявай Вітаўта Вялікага і Дзяржаўнага герба Беларусі — «Пагоні». Для розных вайсковых чыноў патрэбны розныя вартасці гэтай узнагароды — I, II, III ступені.

Хацелася б яшчэ засярoдзіцца вось на якіх акалічнасцях. Хто звяртаў увагу на кавалераў нейкіх замежных узнагарод, дык маглі заўважыць на іх грудзях маленькія муляжы іх. Яны выгадна адрозніваюцца ад цяперашніх ветэранскіх «калодак» большай эстэтычнасцю, прывабнасцю і прадстаўнічасцю. Менавіта вось такімі паменшанымі муляжамі павінны дубліравацца і беларускія ўзнагароды. Кавалер іх павінен быць заўсёды прыкметны.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

# БЕЛАРУШЧЫНА



**Нашы спрадвечныя цёткі. Да сённяшняй размовы варта прыгадаць, што, па вясковай завядзёнцы, чым даўжэй яны былі замужам, тым больш незваротна страчвалі не толькі сваё дзявочае прозвішча, але і імя. І пачыналі іх клікаць не інакш, як ласкавай формай мужавага імені: Сцяпаніха, Сямёніха, Лявоніха, а ў некаторых мясцовасцях — Сцяпанча, Сямёнча, Лявонча...**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Праваслаўная царква на Беларусі: позірк у мінулае

**У гэтыя дні наша краіна святкуе 1000-годдзе Полацкай епархіі. Дзесяць стагоддзяў назад з Полацкага княства ўзяла пачатак беларуская дзяржаўнасць і стала распаўсюджвацца хрысціянства на землях старажытнай Беларусі.**

Памеры Полацкай епархіі, напэўна, адпавядалі межам Полацкай зямлі як дзяржаўнага ўтварэння. У XI—XIII стагоддзях на чале царквы ўсіх усходніх славян стаяў кіеўскі мітрапаліт, які браў удзел у назначэнні (пастаўленні) епіскапаў у асобныя епархіі (епіскапіі) і, канешне, у Полацкую епархію. Сюды былі прызначаны епіскапамі Міна (1105 г.), Дыянісій, Сімяён, якія праславіліся ў Полацку сваёй святасцю.

У Кіева-Пячорскім пацерыку змешчаны тэкст аб заснаванні Тураўскай епархіі ў 1005 г. Спроба распаўсюджання хрысціянства па рымска-каталіцкай традыцыі ў Тураве ў пачатку XI ст. поспеху не мела.

Як паведамляецца ў «Жыцці Кірылы Тураўскага», ён стаў епіскапам па просьбе князя «і людзей таго горада». З гэтага вынікае, што гараджане ў Тураве мелі права голасу, калі вырашалася пытанне аб выбранні епіскапа. Канешне, затым кіеўскі мітрапаліт благаслаўляў яго на епіскапскую кафедру. Паводле Кіева-Пячорскага пацерыка, у духоўным падпарадкаванні тураўскага епіскапа ў XIII ст. былі гарады Пінск, Наваградак, Гародня, Берасце, Ваўкавыск, Здзітаў, Дубровіца, Слуцк і інш. Відаць, межы Тураўскай епархіі сапраўды ішлі далёка на захад, ахопліваючы ўсю заходнюю Беларусь і частку Валыні. Гэта пацвярджае параўнальна ранняе распаўсюджанне хрысціянства ў Беларускім Панямонні, якое ў другой палавіне XIII ст. стала асновай фарміравання Вялікага княства Літоўскага — беларуска-літоўскай дзяржавы.

Пасля распаду Кіеўскай Русі і разбурэння Кіева Батыем кіеўскія мітрапаліты перайшлі на жыхарства ва Уладзімір, а затым у Маскву. Становішча мітраполіі ўскладнілася. Пачаўся разлад і ўзніклі тэндэнцыі вызвалення з-пад уплыву маскоўскіх мітрапалітаў абласцей, якія мелі самастойныя княжанні. Такія варункі прывялі да стварэння Галіцкай і Літоўска-Наваградскай мітраполій.

Вялікія князі літоўскія былі зацікаўлены ў стварэнні сваёй праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку. Канстанцінопальскі патрыярх благаславіў адкрыццё такой мітраполіі ў 1317 годзе. Мітрапаліт Феафіл (верагодна, кіраваў полацкай і тураўскай епархіямі) памёр у 1330 годзе. Наступны мітрапаліт Феагност быў прыхільнікам Масквы і пры падтрымцы Івана Каліты дамогся закрыцця «літоўскай» мітраполіі пад выглядам таго, што тут быццам бы мала праваслаўных вернікаў. Значныя намаганні для яе аднаўлення прыкладалі Альгерд і Вітаўт. У 1487 г. была зацверджана Праваслаўная (Кіеўская) мітраполія ў Вялікім княстве Літоўскім.

З сярэдзіны XVI ст. на Беларусі распаўсюджваюцца ідэі Рэфармацыі. У гарадах узнікаюць пратэстанцкія абшчыны. Прымаюць кальвінізм прадстаўнікі буйных беларускіх магнацкіх родаў. У другой палавіне XVI ст. праваслаўнае веравызнанне страчвае вядучую ролю ў духоўным жыцці насельніцтва Беларусі.

Папства здаўна выношвала ідэю аб уніі заходняй і ўсходняй цэркваў. Было некалькі спроб ажыцявіць яе (Ліёнская унія 1274 г., Фларэнтыйская унія 1439 г.). Унія стварала ўмовы для распаўсюджвання каталіцызму ў новых краінах. У 1387 г. этнічныя літоўцы прынялі хрысціянства па каталіцкаму абраду.

У Вялікім княстве Літоўскім Ягайла і Вітаўт спадзяваліся з дапамогай уніі змякчыць нацыянальна-рэлігійную варожасць і аслабіць сувязі беларускага і ўкраінскага насельніцтва з Маскоўскай дзяржавай. Яны мелі намер прасіць на Канстанцкім саборы 1414 г. аб дапамозе ў справе падпарадкавання праваслаўных падданых адзінай каталіцкай царкве. Для гэтага быў накіраваны на Канстанцкі сабор мітрапаліт Рыгор Цамблак, але безвынікова. Ідэя уніі заходняй і ўсходняй цэркваў не атрымлівала прызнання ў Візантыі, а тым больш у Маскоўскай дзяржаве.

Пасля аб'яднання Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў адной дзяржаве Рэчы Паспалітай (1569 г.) палітычныя інтарэсы яе ўрада, які асцерагаўся ўплыву Маскоўскай дзяржавы і Рускай праваслаўнай царквы на беларусаў і ўкраінцаў, супалі з даўнімі намерамі Ватыкана, а таму з'явілася рэальная магчымасць увядзення Берасцейскай царкоўнай уніі (1596 г.). З канца XVI ст. пачалі ўтварацца «брацтвы» для абароны праваслаўнай царквы. Часам праяўляўся фанатызм як з боку прыхільнікаў уніі, так і яе ворагаў. Рознымі спосабамі унія паступова распаўсюджвалася на тэрыторыі Беларусі і Украіны. Рабілася гэта з дапамогай вярхоўнай улады ў краіне. Так, у 1635 г. польскі кароль Уладыслаў IV даў уніятам грамату, дзе гаварылася, што ў Віцебску, Полацку, Наваградку не павінна быць ніякіх іншых цэркваў, акрамя уніяцкіх. У 1669 г. выйшла пастанова сейма Рэчы Паспалітай аб асуджэнні асоб, якія перайшлі з уніяцтва ў праваслаўе (былі і такія выпадкі). Прадугледжвалася іх выгнанне з месц пастаяннага пражывання і канфіскацыя маёмасці. Здаецца парадаксальным, што ў канцы XVIII ст. сярод беларусаў налічвалася 75—80 % уніятаў і унія стала як бы верай простага люду. Але так адбылося. Тым самым уніяцкая царква набліжалася да нацыянальна-беларускіх пазіцый, ва ўсякім разе не ў меншай меры, чым гэта можна гаварыць пра дзейнасць праваслаўных брацтваў.

У другой палавіне XVI—XVII стагоддзях на Беларусі актывізавалася каталіцкая контррэфармацыя. У 1599 г. у Вільні была заключана канфедэрацыя кальвіністаў і праваслаўных, аднак яна не змагла спыніць яе націску. Езуіты пашыралі свой уплыў на рэлігійнае, культурнае і палітычнае жыццё, дамагаліся закрыцця школ і друкарняў праваслаўных брацтваў.

Не ва ўсе гістарычныя перыяды роля праваслаўнай царквы была аднолькавай. У канцы XVIII стагоддзя ўся Беларусь была далучана да Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Каб коратка ахарактарызаваць становішча Беларусі ў складзе Расіі ў XIX стагоддзі, працытуем тое, што напісаў акадэмік М. М. Ціхаміраў у «Истории СССР» (1948 год, с. 382): «Правительство Николая I старалось всеми средствами добиваться скорейшей русификации белорусских и литовских земель. Оно стремилось задушить малейшие проблески национального сознания, начисто стереть все народные местные особенности. Особым указом 1840 г. Николай запретил даже употребление названий «Белоруссия» и «Литва».

Кіруючыя колы Расійскай імперыі, як і раней Польшчы, зыходзячы з перспектывы асіміляцыі беларусаў, імкнуліся ідэнтыфікаваць паняцці рускі і праваслаўны, паляк і католік, у выніку чаго адмаўляўся факт існавання не толькі беларусаў-праваслаўных і беларусаў-католікаў, а і наогул беларусаў як асобнага этнасу.

У 1839 г. Полацкім царкоўным саборам уніяцкіх епіскапаў, які быў падрыхтаваны царскім урадам і літоўскім епіскапам І. Сямашкам, уніяцкая царква была далучана да Рускай праваслаўнай царквы. Больш за 1,5 мільёна вернікаў заходніх губерняў Расійскай імперыі папоўнілі яе прыходы. Рускі дэмакрат А. І. Герцэн у «Колоколе» за 1858 г. успамінаў, як Мікалай I «всекал униат в православие».

У часы таталітарызму, калі ва ўладзе знаходзіліся бальшавікі, становішча розных канфесій было асабліва цяжкім. У 1922 г. была спроба стварыць Беларускую праваслаўную мітраполію, на чале якой стаў епіскап менскі Мельхіседэк (Паеўскі). У надрукаваным дакуменце гаварылася аб імкненні «праваслаўнай Беларусі да ўпарадкавання свайго царкоўнага жыцця на асновах поўнай незалежнасці (аўтакефаліі)». Неўзабаве Мельхіседэк апынуўся ў ГУЛАГу.

Удалося склікаць у 1924 г. у Магілёве сабор, які абвясціў аб стварэнні аўтаномнай Беларускай праваслаўнай царквы. У яе склад увайшла прыкладна палавіна парафій Рускай праваслаўнай царквы, якія знаходзіліся на тэрыторыі БССР. Кволая аўтаномія Беларускай праваслаўнай царквы праіснавала да канца 1934 г. і была ліквідавана ўладамі, а яе прыходы і епархіі ўвайшлі ў склад Маскоўскай патрыярхіі.

У былым Савецкім Саюзе ў даваенныя гады зусім адкрыта праводзілася антыцаркоўная дзяржаўная палітыка. Страшэнныя рэпрэсіі абрушыліся на многіх святароў. Напярэдадні вайны на свабодзе заставаліся толькі некалькі епіскапаў Рускай праваслаўнай царквы. Частка веруючых знаходзілася ўвесь час у духоўным падполлі, ствараючы так званую «катакомбную» царкву, якая не ішла ні на якія кампрамісы з бальшавікамі. Існавалі секты з назвамі «Истинно-православная церковь», «Истинно-православные христиане». Набажэнствы вялося па дамах, у буданах і г. д. Фактычна ў падполлі знаходзіліся стараверы.

У верасні 1943 г. было дазволена правесці выбары Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі (абраны быў Сергій) і ўтварыць Свяшчэнны Сінод. Тады гэта расцэньвалася як «пачатак прымірэння дзяржавы і праваслаўнай царквы». Аднак таталітарны рэжым рабіў усё, каб трымаць царкоўную дзейнасць, уключаючы назначэнне святароў, пад сваім кантролем. Святары абавязаны былі з амвонаў абвяшчаць «здравіцы» ў гонар «непарушнага блока камуністаў і беспартыйных».

На Беларусі ў часы 2-й сусветнай вайны, калі беларуская зямля знаходзілася пад нямецкай акупацыяй, праваслаўе было тут амаль у такіх жа цяжкіх умовах, як пры сталінізме. У жніўні 1942 г. у Мінску на Першым Усебеларускім царкоўным саборы быў зацверджаны статут Святой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай царквы. Аднак сабор фармальна не зацвердзіў аўтакефаліі. Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква Паўночнай Амерыкі існуе за мяжой.

У 1961 г. Руская праваслаўная царква далучылася да экуменічнага руху, які ўзнік у сярэдзіне XIX ст. у пратэстантызме. Фармальная мэта руху — адзінства веравызнання ўсіх хрысціян. У Беларусі з яе талерантным насельніцтвам існуюць найбольш спрыяльныя ўмовы, каб экуменічны рух прыносіў свой плён і каб тут здзяйснялася сапраўднае адзінства веравызнання хрысціян. Праваслаўе заўсёды зыходзіла з усеагульных хрысціянскіх каштоўнасцей, з надзеі і спадзявання маральнага, духоўнага ўдасканалення асобы, міру, супрацоўніцтва паміж людзьмі.

**Георгій ШТЫХАЎ,**
**загадчык аддзела археалагічных даследаванняў Інстытута гісторыі АН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар.**

# Падказка юрыстам

**Дасылаю ў «Беларушчыну» колькі прыкладаў з невялічкага слоўнічка, які я склаў, знаёмячыся ў час вучобы на гістарычным факультэце са Статутамі Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1588 гадоў, прывілеямі вялікіх князёў Казіміра і Жыгімонта Старога, а таксама пастановамі Віленскага сойма XVI стагоддзя. Знаёмства з гэтымі і іншымі крыніцамі пераконвае: у «залатым веку» сваёй дзяржаўнасці беларусы мелі сваю юрыдычную навуку, юрыдычную мову. Але, чытаючы і слухаючы дыскусіі аб сучаснай прававой рэформе, будаўніцтве прававой дзяржавы, я нічога не чую аб культурным, нацыянальным аспекце. Якую тэрміналогію мы закладзём у свае будучыя «статуты»? Многія спецыялісты схільны адшукваць яе ў замежных мовах, забываючыся на сваю...**

**Магчыма, гэта нататка падасць ідэю нашым юрыстам...**

**ВОЙТ — назва не толькі сельскага старасты, але і старшыні гарадскога суда.**

**ВЫРОК — прыгавор.**

**ДЕДИНА — бацькоўская нерухомая маёмасць.**

**ПРОСОКА — пошукі, следства;**

**ПОЗЫВ — позва, выклік у суд;**

**УФАЛА — пастанова.**

**Тэрміны прыводзяцца ў тагачасным правапісе.**

**Андрэй КАТЛЯРЧУК.**
г. Бранск.

НАШЫ ПРОЗВІШЧЫ

# МЫ ПАЧЫНАЕМ З ЛІТАРЫ «А»...

РУБРЫКУ ВЯДЗЕ АКАДЭМІК МІКАЛАЙ БІРЫЛА



**Сёння мы выконваем абяцанне, якое далі нашым чытачам: адкрываем новую рубрыку з працягам. З'яўленне яе падказала пошта, шматлікія пытанні аб паходжанні, правільным напісанні прозвішчаў і імёнаў. Імі займаецца спецыяльная галіна філалагічнай навукі — антрапаніміка. У беларускім мовазнаўстве гэту «дзялянку» даўно і плённа распрацоўвае Мікалай Васільевіч Бірыла. Ён аўтар грунтоўнай манаграфіі «Беларуская антрапанімія», якая ўключае тры тамы, прысвечаныя імёнам, мянушкам, імёнам па бацьку, прозвішчам беларусаў.**

**Гэтая тэма захапіла вучонага даўно, яшчэ ў пяцідзесятыя гады. Не ведаем, ці марыў тады Мікалай Васільевіч сабраць УСЕ беларускія прозвішчы, але паслядоўная праца на працягу дзесяцігоддзяў зрабіла рэальным тое, што, здавалася б, не пад сілу аднаму чалавеку.**

**Зараз акадэмік Бірыла мае падрыхтаваны ў чарнавым варыянце найбольш поўны слоўнік беларускіх прозвішчаў (54 тысячы). Можна ўявіць яго аб'ём, калі толькі частка рукапісу на літару «А» складаецца з 295 старонак!**

**Менавіта з гэтай, яшчэ нявыдадзенай працай мы мяркуем знаёміць вас у новай рубрыцы. Той, хто будзе рэгулярна сачыць за выпускамі «Беларушчыны», можа скласці свой слоўнічак, куды ўвойдуць найбольш распаўсюджаныя і вядомыя прозвішчы. Слоўнікавыя артыкулы будуць уключаць «пашпартныя звесткі» — пералік раёнаў, дзе зафіксавана прозвішча, тлумачэнне яго паходжання, а ў некаторых выпадках і спасылку на гістарычныя крыніцы. Гэта можа быць вельмі важна для тых, хто займаецца сваім радаводам.**

**Зразумела, тыя, хто мае прозвішча, якое пачынаецца на апошнія літары алфавіта, можа праявіць нецярпенне. Таму побач з публікацыяй матэрыялаў слоўніка мы можам змяшчаць аддзел кансультацый. Вядучы нашай рубрыкі гатовы адказаць на ўсе пытанні чытачоў «Звязды».**

**АБАБУРКА.** Зафіксавана: Магілёўская вобл. — г. Магілёў, Мінская вобласць — Клецкі, Нясвіжскі раёны. Паходзіць ад мянушкі «Абабурка», якая, відаць, утварылася ад дзеяслова абабурыць — «адлупцаваць». Абабурка — г. зн. «той, якога лупцавалі».

**АБАДОЎСКІ** (Віцебскі, Мінскі, Пухавіцкі, Смалявіцкі, Уздзенскі раёны). Назва анамастычнага паходжання — г. зн. утвораная ад назвы населенага пункта Абады, Абадоўцы для абазначэння жыхара гэтага н. п. (абадоўскі чалавек).

**АБІРАЛА** (Шклоўскі раён). Паходзіць ад імя-мянушкі Абірала — ад абіраць — «знімаць скуру з бульбы і інш.», «ачышчаць, ці абкрадаць, усё забіраць». Г. зн. «той, які абірае, ачышчае, абкрадвае».

**АБЛАЖЭЙ** (Баранавіцкі, Дзятлаўскі, Навагрудскі, Слонімскі раёны). Паходзіць ад уласнага імя Аблажэй (Абражэй), якое, у сваю чаргу, ад кананічнага каталіцкага Амброжэй з лацінскага «несмяротны».

**АБЛАМЕЙКА** (Баранавіцкі, Ганцавіцкі, Воранаўскі, Карэліцкі, Навагрудскі, Стаўбцоўскі раёны). Памяншальная форма ад імя-мянушкі Аблам, якое паходзіць, паводле І. Насовіча, ад аблам — «футра, скура з ворсам».

**АБРАМАЎ** (і гняздо пашыраных прозвішчаў: **АБРАМЕНКА, АБРАМЕНКАЎ, АБРАМЕНЯ, АБРАМКІН, АБРАМОВІЧ, АБРАМОЎСКІ, АБРАМЧЫК** і пад.). Ад кананічнага каталіцкага імя Абрам з яўрэйскай «бацька многіх (народаў)». Ужывалася і ў праваслаўнага насельніцтва: Авраам, Аўраамій.

**АБУХОВІЧ** (Верхнядзвінскі, Расонскі, Гомельскі, Астравецкі, Ваўкавыскі, Мастоўскі, Шчучынскі, Крычаўскі, Мінскі). Паходзіць ад імя па бацьку з суфіксам -овіч ад імя-мянушкі Абух. Сустракаецца ў пісьмовых крыніцах, галоўным чынам у Гарадзенскім павеце. У Попісе 1567 г. сустракаем 9 выпадкаў, сярод іх: Ждан Иванович Обухович (стар. 680), Мартин Обухович (стар. 679) і інш.

**АВЕРЧАНКА** (Баранавіцкі, Гарадоцкі, Лёзненскі, Шумілінскі, Гомельскі, Добрушскі, Ельскі, Калінкавіцкі, Рагачоўскі, Чачэрскі, Слуцкі). Паходзіць ад імя па бацьку з суфіксам -анка ад уласнага імя Аверка (Авер, Аверкій) з лацінскай «які аддаляе, стрымлівае».

**АГАРОДНІК** (Баранавіцкі, Бярозаўскі, Драгічынскі, Брагінскі, Жыткавіцкі, Светлагорскі, Хойніцкі, Чачэрскі, Ваўкавыскі, Зэльвенскі, Бабруйскі, Нясвіжскі, Салігорскі, Слуцкі, Стаўбцоўскі). Імя-мянушка Агароднік належала чалавеку, які вырошчваў агародніну. Старабеларускае «агароднік» — «селянін, які меў тры моргі зямлі, за што выконваў службу адзін дзень у тыдзень, а жонка 6 дзён за лета жала». Відаць, агароднікі жылі кампактнымі групамі, таму іх паселішчы атрымалі назвы Агароднікі. Я. Рапановіч фіксуе на Беларусі 40 такіх назваў. З іх у Брэсцкай вобласці — 9, у Віцебскай — 3, у Гомельскай — 20, у Мінскай — 7.

**АГАФОНАЎ** (і гняздо прозвішчаў **АГАФОНЕНКА, АГАФОНЧЫК, АГАФОШКІН**) ад кананічнага праваслаўнага імя Агафон, з грэчаскай «добры».

**(Працяг будзе).**

# Парады на ўсякі выпадак




**Кавалак гумавага шланга з проразямі — добрае сховішча для стамесак, нажоў і іншага інструменту. Прымацаваўшы на дошцы невялічкія адрэзкі гумавага шланга, вы не толькі збавіцеся ад пошукаў патрэбнага інструменту, але і застрахуецеся сябе ад неабходнасці кожны раз перад работай яго заточваць.**

**Зручнае сховішча для свярдзёлкаў, лерак і гайкарэзаў можна пашыць са шчыльнага матэрыялу.**



**Добрую падстаўку для паяльніка можна зрабіць з дроту. Звітая з яго крыжавіна прымацоўваецца да інструмента. Цяпер шукаць падстаўку не трэба — яна заўсёды разам з паяльнікам.**

Адна рука трымае паяльнік, другая — волава, а «трэцяя»... Памочнікам пры пайцы можа служыць звычайная спіральная спружына. Паміж віткамі спружыны, якая замацоўваецца на дошцы шрубамі, устаўце канцы правадоў — і можаце паяць.






**Пры дапамозе простых у вырабе і зручных струг добра апрацоўваюцца бакавыя і тарцовыя бакі дошак.**

Хатняму майстру трэба мець у сваім тэхнічным арсенале ўпор для сталярнага варштата, які надзейна замацоўвае дэталь і ахоўвае рукі ад удараў і раненняў.



Пад рукамі не аказалася пінцэта... Яго з поспехам заменіць зроблены з двух брусочкаў, канцы якіх зрэзаны пад вуглом 15—30 градусаў і ахоплены ў двух месцах гумкамі.

# Як вызначыць якасць будаўнічых матэрыялаў

**ДАХАВАЯ СТАЛЬ (БЛЯХА)**

Якасць лістоў правяраецца аглядам. Асаблівая ўвага звяртаецца на сляды іржы. Іржу можна зняць 5—10-працэнтным растворам тэхнічнай салянай кіслаты з наступным старанным прамываннем вадой і прасушваннем. Для работы з кіслатой трэба выкарыстаць шарсцяную анучку, засцерагаючы рукі гумавымі пальчаткамі.

**САЛАМЯНАЯ СЕЧКА (З САЛОМЫ ЗБОЖЖАВЫХ ЗЛАКАЎ)**

Яна лічыцца лепшай, калі яе размер складае 1—2 см. Такі размер сечкі аптымальны для глінасаламянай змазкі пры ўцяпленні падлогі і столевых перакрыццяў.

**ШКЛО**

Яно добрай якасці, калі бясколернае ці мае блакітнае або зеленаватае адценне. Жоўтае адценне сведчыць аб дрэннай якасці — такое шкло дрэнна зварана. Колер шкла вызначаюць наклаўшы тры лісты на белую паперу.



**КІТ**

Павінен быць пластычным і не прыліпаць да рук.

**МАСЛЯНАЯ ФАРБА**

Пры добрай якасці фарбы яе слой высыхае за адны суткі, пры здавальняючым — за двое сутак. Калі націснуць пальцам на слой на працягу 5 секунд і палец не запэцкаецца, фарба лічыцца высахлай.



**АЛІФА**

Добрая аліфа празрыстая, пасля сутачнага адстою можа мець невялікі асадак (не больш за 10 працэнтаў). Найбольш надзейны спосаб вызначэння якасці — проба на высыханне: поўнае высыханне слоя павінна быць не пазней 24 гадзін. Добрая аліфа саскрэбваецца са шкла вострым нажом у выглядзе эластычнай палоскі, яна не крышыцца пад нажом.

**ЦЭМЕНТНАЯ АСНОВА**

Цэментная аснова (сцяжка) пад лінолеум лічыцца прыгоднай, калі яна мае вільготнасць не больш за 8 працэнтаў. Праверка вільготнасці асновы праводзіцца з дапамогай прамакальнай паперы. Яе кладуць на аснову, а зверху шчыльна прыкрываюць поліэтыленавай плёнкай з нахлёстам па 10 см на кожны бок (з грузам па ўсяму перыметру ці з праклейкай гумавым клеем). Праз 16 гадзін прамакальную паперу правяраюць. Калі яна вільготная, то аснова яшчэ не прыгодная для насцілкі лінолеума.

**ЯК ВЫЗНАЧЫЦЬ МАРКУ БЕТОНУ?**

Марку бетону (зацвярдзелага) можна вызначыць з дапамогай зубіла і малатка вагой 0,3—0,4 кг. Калі лязо пагружаецца на глыбіню 5 мм, то марка бетону 70—100. Тонкія лісточкі, якія аддзяляюцца на паверхні, сведчаць аб тым, што марка 100—200. Неглыбокі след пакідае зубіла на бетоне маркі звыш 200.

**(Па матэрыялах часопіса «Наука и жизнь»).**



# Просты спосаб аднавіць канапную падушку

Квадратны кавалак дэкаратыўнай тканіны (каляровая хустка) павязваецца, а лепш драпіруецца вакол падушкі адным з паказаных спосабаў.

Падушку ў выглядзе цукеркі можна ўпрыгожыць стужкамі (1), можна сабраць чатыры канцы ў дэкаратыўны вузел (3), звязаць іх у форме банта (4) ці схаваць унутр (2).

СВАЕ КОЛЫ

# Каб не пацела шкло...

У дрэннае надвор'е, калі снег наліпае на ветравое шкло і аўтадворнікі не спраўляюцца з нагрузкай, вадзіцеля падсцерагае яшчэ адна непрыемнасць. Часта пацее шкло, і бачнасць дарогі рэзка пагаршаецца. А калі ўстройства для абдзімання гарачым паветрам ветравога шкла раптам сапсавалася, то шаферу, які трапіў у такую сітуацыю, і ўвогуле не пазайздросціш.

Але ёсць правераны часам няхітры спосаб ліквідаваць паценне шкла. Трэба прыгатаваць раствор з вадкага мыла або шампуню (6 частак), гліцэрыны (3 часткі), шкіпінару (1 частка) і ім перад паездкай у дрэннае надвор'е працерці шкло ўнутры кабіны. Тады шкло ў кабіне пацець не будзе.

